**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

32 (592) 11 жніўня 2011 года

Кошт свабодны.

Полацкі раён

# Конкурс, як у творчых ВНУ

■ Станіслаў Раманчук

**Не сакрэт, што апошнім часам шэраг сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў і вучылішчаў краіны адчуваюць недахоп абітурыентаў у сувязі са складанай дэмаграфічнай сітуацыяй.**

У адрозненне ад іх, Полацкі каледж, які стаў цяпер падраздзяленнем Віцебскага дзяржуніверсітэта, не мае такіх праблем. У новым навучальным годзе тут пачнуць вучобу 280 першакурснікаў па запатрабаваных жыццём спецыяльнасцях і будзе з каго выбіраць. На прафесію экскурсавода і тураператара на адно месца прэтэндуе штогод аж 10 жадаючых, бо тут даюць яшчэ трывалыя веды замежных моў. Вельмі запатрабаваныя спецыяльнасці настаўнікаў англійскай і нямецкай моў, паколькі лепшых выпускнікоў потым залічваюць ва ўніверсітэт на скарочаны курс навучання. Акрамя гэтага, запатрабаваны спецыялісты рытмікі і харэаграфіі, музычнага аддзялення і спецыялісты для дашкольных устаноў. Увогуле гэты каледж – адзін са старэйшых у Беларусі, ён пачаў сваю дзейнасць 140 гадоў назад як настаўніцкая семінарыя. Стараючыся ісці ў нагу з часам, палачане атрымалі летась сертыфікат на адпаведнасць міжнародным стандартам навучання. Таму з'явіліся і першыя замежныя навучэнцы, група маладых людзей з Туркменіі. У старажытны беларускі горад ахвотна едуць вучыцца юнакі і дзяўчаты і з іншых беларускіх абласцей. Праўда, сёлета ўжо 130 студэнцкіх месц у гэтым каледжы вызначаны на платнай аснове.

Пастаўскі раён

# На першым плане – людзі

■ Кастусь Александровіч

**У звычайнай мітусні штодзённых падзей імклівага цяпер жыцця часта людзям няма калі сустрэцца, асабліва летам у сельскай мясцовасці.**

Аднак у адной з вядучых гаспадарак Пастаўскага раёна, цяпер ААТ "Навасёлкі-Лучай", з гэтым не згаджаюцца, і напярэдадні пачатку жніва правялі ўжо ў трэці раз на цэнтральнай плошчы сваё свята працы. Вяскоўцы яго заслужылі, бо першымі ў раёне сёлета правялі веснавую сяўбу, раней за ўсіх справіліся з першым укосам траў ды і дабіліся росту вытворчасці сельгаспрадукцыі ў параўнанні з мінулым годам на 10 %. Тут за паўгода малака прадалі звыш 2700 тон пераважна класам "экстра", а мяса - 479 тон, пачалося будаўніцтва новай малочнатаварнай фермы з даярамі-робатамі. Аб гэтым было прыемна расказаць людзям на афіцыйнай частцы ў Доме культуры кіраўніку сельгаспрадпрыемства Юрыю Шымчыку і ўручыць лепшым работнікам дзясяткі важкіх грашовых прэмій. Надвор'е ў той суботні дзень выдалася на славу, і ўрачыстасці прадоўжыліся на вуліцы. Вельмі спадабаліся вяскоўцам з усіх аддзяленняў канцэрты цыганскага сталічнага шоу "АлЛюР" і эстрадны групы "25 плюс-мінус". За святочнымі сталамі можна было паспрабаваць прысмакі падсобнай вытворчасці ад квасу да шашлыкоў, каўбасак-грыль, на ўра разыходзілася адмысловая юшка з рыбгаса "Навінкі". Настрой у людзей быў выдатны, для моладзі да цямна ладзілася дыскатэка, а цяпер хлебаробы паспяхова вядуць уборку вырашчанага збожжа.

Мёрскі раён

# Прыгажосць – патрэбнасць часу

■ Чэслаў Якубовіч

**Апошнім часам стала проста не пазнаць большасць малых гарадоў у глыбінцы, настолькі яны сталі дагледжанымі, прыгожымі і ўтульнымі.**

Не стаў выключэннем і райцэнтр Мёры, якому таксама стараюцца надаць еўрапейскі лоск і чысціню. Невыпадкова мясцовы райкамунгас пабудаваў сабе кветкавую цяпліцу. Зрабілі яе па сучасных тэхналогіях падагрэву грунту, яго аўтаматычнага паліву і кантролю патрэбнага клімату. Для гэтага спецыялісты ЖКГ зманціравалі неабходныя інжынерныя камунікацыі. У штаце прадпрыемства з'явіўся малады спецыяліст садова-паркавага і ландшафтнага дызайну з вышэйшай адукацыяй Ірына Шадура, якая атрымала гэту спецыяльнасць у Беларускім тэхналагічным універсітэце. Сёлета ўжо па-новаму былі пад яе кіраўніцтвам афармлены газоны і скверы ў галоўных месцах горада, а таксама мясцовая славутасць – набярэжная на беразе возера. Над наданнем прыгажосці зонам адпачынку і найбольш людным месцам працуюць 12 работнікаў па добраўпарадкаванню, якія душой любяць кветкі. Дарэчы, з увядам новай цяпліцы ў райцэнтры з'явіцца магчымасць стварыць вельмі прыгожыя кветкавыя кампазіцыі, чым яшчэ раней пачалі адрозніваца ад іншых Паставы. У Мёрах у халодны перыяд года вырашылі таксама вырошчваць не толькі расаду кветак, цюльпаны, гваздзіку, але і "каралеўскія" кветкі – ружы, на якія ёсць попыт круглы год.

# Канца і краю не відаць

■ Фадзей Шымуковіч

Апошні раз капітальны рамонт маста праз раку Дзісна быў праведзены 8 гадоў таму назад. Не сказаць,каб рух па мосце быў інтэнсіўны. Больш за тое, рух трактароў, грузавых аўтамабіляў і аўтобусаў па мосце быў забаронены. Нягледзячы на гэта, дарожнікі вялі догляд за мастом так, што ён прыйшоў у нядбайнасць. У маі гэтага года яго паставілі на капітальны рамонт, які павінен быць завершаны ў канцы жніўня. Прайшло ўжо больш за два з паловай месяцы, а канца рамонту адной палавіны моста не бачна. Так што дзісенцы атрымаюць адрамантаваны мост не раней, як паляцяць белыя мятлікі. А мо рамонтнікі вырашылі зрабіць дзісенцам падарунак у гонар новага 2012 года?



# Лічба нумара

**600** млн. $ - як мінімум столькі сродкаў, як заявіў генеральны дырэктар сталічнага МАЗа Аляксандр Бароўскі, патрабуецца аднаму з флагманаў беларускай эканомікі для правядзення яго мадэрнізацыі і тэхпераўзбраення. Толькі гэта дазволіць айчынным вытворцам істотна павысіць якасць сваёй прадукцыі і канкурэнтаздольнасць нашага аўтамабільнага брэнда, карэнным чынам палепшыць пасляпродажны сервіс. Іншая справа, што мінчане могуць укласці ў свой завод толькі каля 100 млн. долараў.

Такім чынам, і для аднаго з буйнейшых прадпрыемстваў краіны прыйшоў час выбраць сабе стратэгічнага інвестара і вызначыць сваю будучыню. Вось ужо працяглы час у якасці такога партнёра завадчанам "сватаюць" расійскі аўтагігант, Камскі аўтазавод. Аднак мала хто задумваецца, што КамАЗ – прамы канкурэнт беларускага завода, паколькі яны абодва выпускаюць аналагічную прадукцыю, мадэльны рад вялікагрузных дарожных машын. Ды і, пасутнасці, расійскі рынак – галоўны для мінчан. Гэта стала найбольш відавочна ў 2009 годзе, калі мы перажылі першую хвалю даволі сур'ёзнага фінансава-эканамічнага крызісу.

Менавіта тады, два гады назад, выпуск мазаўскіх грузавікоў скараціўся ў 2, 5 разы і адпаведна іх продаж за мяжу да 9 тысяч штук. Сітуацыя на расійскім рынку стала амаль што крытычнай, туды збыт беларускіх машын зменшыўся ў 8,5 разоў – усяго да паўтары тысячы грузавікоў за год. Раней расіяне закуплялі нашых машын да 12 тысяч адзінак у год. Аналагічнае, у 13 разоў, падзенне МАЗа назіралася і на украінскім рынку. Пазалетась мазаўцы адчулі на сабе эканамічныя цяжкасці, звольнілі звыш 5 тысяч рабочых.

Ад банкроцтва завод выратавала толькі шчодрая дзяржаўная падтрымка. Праўда, у мінулым годзе сітуацыя з продажам тэхнікі ў Расію зноў палепшылася, што выклікала глухое раздражненне расійскіх вытворцаў. Аб'ёмы адгрузак мазаўскай тэхнікі ў РФ павялічыліся ў 3,5 разы ў параўнанні з перыядам крызісу. Не ўдалося расіянам пры дапамозе адміністрацыйных рычагоў абараніць свой рынак.

Таму цяпер нельга быць упэўненым, што з'явіцца агульны аўтамабільны канцэрн пад назвай "Русбел Аўта" з удзелам МАЗа і КамАЗа. Справа ў тым, што на важкі пірог беларускай эканомікі "паклаў вока" і другі буйны расійскі канцэрн, прамы канкурэнт гаспадароў камазаўцаў, прыватнага холдынга "Растэхналогіі" група кампаній "Рускія машыны" ( у яе ўваходзяць такія буйныя заводы, як Яраслаўскі ААТ "Аўтадызель", кампанія "Група ГАЗ", аўтазавод "Урал" і іншыя).

Менавіта яна яшчэ ў 2001 пачала выказваць зацікаўленасць на збліжэнне з беларускім МАЗам і гатоўнасць укласці ў яго мадэрнізацыю мільярды долараў. Аднак менавіта ў Беларусі ў прыватызацыі вельмі шмат праціўнікаў на ўзроўні органаў улады, у самых міністэрствах і сярод дырэктарскага корпусу. Такія пытанні ў нас вырашаюцца марудна, вельмі асцярожна, што ў выніку і прывяло да цяперашняга эканамічнага абвалу і крызісу. На сумесныя активы МАЗа і Урала, а не КамАЗа была нейкая зацікаўленасць пасля прыезду ў Мінск расійскага алігарха Алега Дзерыпаскі, але перамовы зацягнуліся і дагэтуль не прынеслі вынікаў.

Аналагічнай застаецца і сітуацыя з другім расійскім інвестарам "Растэхналогіі". Аднак болей марудзіць нельга, каб канчаткова не страціць свае пазіцыі на замежных рынках, прайграўшы тэхнічную канкурэнцыю з-за нехваткі грошай. Беларуская дзяржава цяпер не ў стане ўкладаць сродкі ў свой аўтагігант. Увасходзіць у альянс з замежным партнёрам час сапраўды прыйшоў, і гэта нядрэнна нават, што ёсць выбар паміж двума прапановамі ад расіян. І гэта трэба рабіць зараз, бо сусветныя агенцтвы панізілі крэдытны рэйтынг беларускіх урадавых аблігацый з-за вялікага адмоўнага сальда знешнегандлёвага балансу, недахопу валютных сродкаў.

З іншага боку, завяршаецца працэс прыватызацыі беларускай долі акцый "Белтрансгазу", на чарзе продаж дзяржддолі кампаніі сотавай сувязі МТС. Відавочна, што ў беларускія заводы інвестары стануць укладваць сродкі, калі будуць упэўнены ў тым, што атрымаюць ад гэтага прыбытак. Пакуль жа беларуская індустрыя для замежнага капіталу мала цікавая на фоне адчувальнага валютнага крызісу.

## Надвор'е ў Глыбокім

www.rp5ru

| | чацвер 11.08.11 | | | | пятн. 12.08.11 | | | | сб. 13.08.11 | | | | нядз. 14.08.11 | | | | пн.15.08. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | +11 | +14 | +17 | +15 | +11 | +14 | +17 | +16 | +13 | +17 | +20 | +17 | +13 | +18 | +24 | +20 | +14 | +19 | +25 |
| Ціск, мм | 744 | 745 | 744 | 744 | 743 | 743 | 743 | 744 | 744 | 745 | 745 | 745 | 745 | 746 | 746 | 746 | 746 | 746 | 746 |
| Вільготнасць, % | 92 | 74 | 58 | 71 | 100 | 99 | 87 | 91 | 100 | 98 | 78 | 88 | 100 | 90 | 59 | 84 | 100 | 93 | 57 |
| Вецер м/сек | З 4 | Ю-З 5 | Ю-З 6 | Ю-З 3 | Ю 3 | Ю 2 | Ю-З 2 | Ю-В 2 | Ю 2 | Ю 1 | В 1 | Ю-В 3 | Ю-В 2 | Ю-В 2 | Ю-В 1 | В 3 | Ю 1 | Ю 2 | Ю-З 3 |

## Дзень за днём

**Эксперты ЕўрАзЭС адзначылі, што беларуская эканоміка – адна з самых энергазатратных у СНД, па ўзроўні рынкавых рэформ беларусы істотна адсталі ад іншых постсавецкіх краін. Сёлета толькі 6,5 % суайчыннікаў атрымоўваюць цяпер зарплату ў суме 500 $ у месяц і заняты яны ў банкаўскай дзейнасці, здзелках з нерухомасцю і на будаўніцтве. Сумна, але ўпершыню Беларусь, па дадзеных праведзеных у РФ сацапытанняў, трапіла ў спіс пяці асноўных ворагаў Расіі ў свеце.**

# Важнейшыя навіны свету

**Нарвегія.** У выніку двайнога злачынства ў цэнтры Осла і на востраве загінулі 76 чалавек, чаго ў адной з самых спакойных і заможных краін свету не было з ваенных часоў.

**Англія.** Скандал вакол праслухоўвання тэлефонных размоў самай паспяховай газетай News the World вельмі дорага абышоўся буйнейшаму медыямагнату свету Р. Мердаку.

**Ірак.** На прыгранічную паўночна-заходнюю частку краіны ўварваліся войскі суседняга Ірана і знішчылі там 3 лагеры ўзброеных курдскіх баевікоў, што ўскладніла абстаноўку.

**Польшча.** Грамадскасць краіны абурыла, што ўлады РБ адмовіліся прадоўжыць арэнду будынка ў Мінску, якое дзесяцігоддзямі займала польскае пасольства ў Беларусі.

**Грузія.** Прэзідэнт М. Саакашвілі на міжнароднай канферэнцыі ў Батумі папрасіў ЕС не ізаляваць ад Еўропы Беларусь, бо інакш яна трапіць пад кантроль алігархаў Крамля.

**Чылі.** Група судмедэкспертаў пацвердзіла пасля эксгумацыі астанкаў, што экс-прэзідэнт С. Альендэ падчас путчу восенню 1973 года скончыў жыццё самагубствам.

**Сербія.** Паліцыя арыштавала Горана Хаджыча, апошняга са 161 вайскоўца, каго шукаў спецыяльны трыбунал ААН наконт злачынстваў супраць чалавечнасці ў былой Югаславіі.

**Кітай.** Ватыкан адлучыў ад хрысціянскай веры біскупа, рукапалажанага ў сан з санкцыі ЦК КПК, кітайскі касцёл не прызнае вяршэнства Рыма, але не 6 млн. вернікаў каталікоў.

**Аўстрыя.** У фамільным склепе ў Вене пышна пахавалі патрыярха знакамітай каралеўскай дынастыі Габсбургаў, якая некалі валодала тэрыторыямі 13 еўрапейскіх дзяржаў.

**Венесуэла.** Прэзідэнт Уга Чавес склаў часткова свае паўнамоцтвы ў сувязі з паўторным лячэннем ад раку на Кубе і правядзеннем там неабходнага курсу хіміятэрапіі.

**Фінляндыя.** Кампанія Nokia аб'явіла аб зніжэнні цэн на 15 % на свае смарт-фоны з мэтай павелічэння сваёй прысутнасці на сусветным рынку ва ўмовах вялікай канкурэнцыі.

**Казахстан.** 71-гадовы прэзідэнт Н. Назарбаеў лёг у клініку медыцынскага цэнтра ўніверсітэта Гамбург-Эпендорф (Германія), прычыны яго шпіталізацыі невядомыя.

**Польшча.** На працягу амаль паўмесяца адразу ў 9 ваяводствах краіны назіраліся буры і моцныя лівні, загінула жанчына, 5 чалавек было паранена, затапіла шэраг вуліц Варшавы.

**Расія.** На вуліцы шэрагу гарадоў выйшлі камуністы з плакатамі "Лукашэнку – у прэзідэнты РФ", хоць іх партыя КПРФ вылучыла сваім кандыдатам Генадзя Зюганава.

**Украіна.** У рэанімацыі гарбальніцы Ірпеня пад Кіевам на 58-м годзе жыцця памёр вядомы акцёр Сяргей Падгорны, выканаўца яркай ролі ў фільме "У бой ідуць адны старыя".

## Дзіцячыя заплечнікі, сумкі і абутак — у льготны крэдыт



■ БелаПАН

**У Беларусі прынята рашэнне аб выдзяленні льготных спажывецкіх крэдытаў для набыцця тавараў для дзяцей. Гэта прадугледжана пастановай Савета міністраў № 1052 ад 6 жніўня 2011 года, апублікаванай на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале. Яна будзе дзейнічаць да 1 кастрычніка 2011 года.**

Згодна з дакументам, ільготныя крэдыты выдзяляюцца на наступныя тавары беларускай вытворчасці: верхняе адзенне для дзяцей; абутак для дзяцей; ранцы і рукзакі вучнёўскія; сумкі маладзёжныя.

У адпаведнасці з указам Прэзідэнта № 371 ад 6 ліпеня 2009 года льготныя крэдыты выдзяляюцца банкамі ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку ў беларускіх рублях да трох гадоў з выплатай 10% гадавых.

Агульная сума льготных крэдытаў, што выдаюцца банкамі аднаму атрымальніку, складае да 300 базавых велічынь (10,5 мільёна рублёў).

Крэдыты выдзяляюцца ў «Беларусбанку», «Белаграпрамбанку», " Белінвестбанку», «Белпрамбудбанку».

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Пінск.** У катэдральным касцёле знайшоў вечны спачын кардынал Казімір Свёнтак, які памёр на 97-м годзе годзе жыцця і стаяў ля вытокаў адраджэння духоўнасці ў краіне.

**Мінск.** Віцэ-прэм'ер урада РБ Сяргей Румас адзначыў, што няма гатовай даты, калі адбудзецца стабілізацыя валютнага рынку, гэты сегмент эканомікі паступова дэградуе.

**Гомель.** Украінскі Крукаўскі вагонабудаўнічы завод выступіў адным з заснавальнікаў СП з гамяльчанамі па выпуску ўсіх тыпаў пасажырскіх вагонаў і ўклаў у справу 1,5 млн. $.

**Магілёў.** На заводзе "Трансмаш" пачаліся выпрабаванні навейшай пажарнай лесвіцы вышынёй 52 метры і пад'ёмніка вышынёй 54 м на шасі МАЗа па карэйскай тэхналогіі.

**Ліда.** Дырэкцыя завода харчовых канцэнтратаў сарвала аукцыён па продажы прадпрыемства, хоць у завадчан знайшліся добрыя інвестары, каб узняць вытворчасць.

**Жлобін.** Серыя гучных арыштаў кіраўніцтва БМЗ, пацвердзіў Генеральны пракурор Беларусі Рыгор Васілевіч, выклікана развіццём тут сітуацыі ў крымінальным ключы.

**Рэчыца.** Услед за іншымі рэгіёнамі РБ у раёне кожны другі і чацвёрты аўторак месяца сталі днямі цвярозасці, спіртное не прадаецца, яго доля ў гандлі знізілася з 22 да 19%.

**Гродна.** Пры прызямленні на лётным полі мясцовага аэраклуба з-за праблем з раскрыццём асноўнага парашута цяжкую траўму пазваночніка атрымаў 15-гадовы хлопец.

**Баранавічы.** Пад назвай "Імклівы арол-2011" армейскі спецназ РБ правёў упершыню сумесныя ваенныя вучэнні са спецпадраздзяленнем сіл антытэрору Кітайскай арміі.

**Мінск.** Кампанія "Philips у РБ" прадставіла новыя для айчыннага рынку навінкі сваіх тэлевізараў бюджэтнага і сярэдняга класа Smart TV з вэб-рэсурсамі камп'ютара.

**Ваўкавыск.** У цэнтры горада побач з музеем з'явіўся мемарыяльны знак, прысвечаны 600-годдзю Грундвальдскай бітвы, у якой мужна ўдзельнічала Ваўкавыская харугва.

**Старыя Дарогі.** Ля вёскі Церабуты трагічна загінуў 12-гадовы хлопчык, які забіў металічны навес аўтобуснага прыпынку ў выніку моцнага парыву ўраганнага ветру.

**Барысаў.** У гэтым горадзе адкрыўся новы, адзін з лепшых у краіне трохпавярховы фізкультурна-аздараўленчы цэнтр з двума басейнамі і саўнамі, спартзаламі, медкабінетам, більярдный.

**Пружаны.** У большасці пчалаводаў раёна летам загінула 50 - 70 % пчол пасля апрацоўкі палёў хімпрэпаратамі, з іх толькі 11 з санпашпартамі пасек могуць кампенсаваць страты.

**Смалявічы.** Пасля сваёй адстаўкі з пасады галоўнага трэнера ФК "Дынама" (Брэст) вядомы спецыяліст Юрый Пунтус пагадзіўся ўзначаліць мясцовую каманду 2-й лігі.

## Тарыфы на цеплазабеспячэнне і прыродны газ у Беларусі падвышаны на 10%

■**Дайджэст**

Тарыфы для насельніцтва на цеплавую энергію для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння і прыродны газ у Беларусі з 1 жніўня 2011 года падвышаны ў сярэднім на 10%. Пра гэта гаворыцца ў пастанове савета Міністраў №1031.

Паводле дакумента, з 1 жніўня тарыф на цеплавую энергію для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння павялічаны на 9,9% - з Br43 458,3 да Br47 804,1 за 1 Гкал.

У сярэднім на 10% падвышаны і кошт для насельніцтва прыроднага газу. Для грамадзян, у жылых хатах (кватэрах) якіх усталяваны прыборы індывідуальнага ўліку выдатку газу, кошт 1 куб.м прыроднага газу ў летні перыяд складзе Br933,6, у ацяпляльны перыяд кошт застанецца ранейшы - Br307,7 (пры наяўнасці індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў і (ці) газавых водонагравальнікаў. Пры адсутнасці індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў кошт складзе Br933,6.

Калі жылое памяшканне не абсталявана прыборамі індывідуальнага ўліку выдатку газу, тарыф для аднаго пражываючага пры наяўнасці газавай пліты і цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння ці індывідуальнага воданагравальніка (за выключэннем газавага) складзе Br7 468,8 у месяц. Пры наяўнасці газавай пліты і газавага воданагравальніка (пры адсутнасці цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння) гэта сума павялічыцца да Br21 472,8.

Акрамя таго, з 1 жніўня на 10% павялічаны кошт звадкаванага газу ў балонах вагой 21 кг. Кошт 1 кг звадкаванага газу складзе Br2 170,3, газавага балона - Br45 580.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На грані краху апынуўся тэлезавод "Віцязь", сітуацыя на "Гарызонце" лепшая, але разам яны ў 1-м паўгоддзі знізілі на 190,4 тыс. штук (на 16,5 %) выпуск тэлевізараў.

**Наваполацк.** Расійская кампанія "ЛУКОЙЛ" зацікавілася набыццём аб'яднання "Палімір", якое ўваходзіць у склад "Нафтана", але перамовы аб пакупцы зацягнуліся.

**Талачын.** Пад 200 ц/га склала ўраджайнасць ранняй бульбы на кансервавым заводзе, тут бульбяное поле самае вялікае ў вобласці – 620 га, завяршаюць увод сховішча на 12 тыс. т.

**Верхнядзвінск.** Мясцовы масласырзавод выйшаў на безадходную дзейнасць, новы цэх пачаў выпускаць сухую дэмінералізаваную сыроватку, да канца года вырабяць 1 тыс. тон.

**Віцебск.** Ваенкаматы вобласці накіравалі на службу ў пагранвойскі, КДБ і ўнутраныя войскі РБ каля 500 прызыўнікоў, астатнія прызыў у армію пройдзе ў лістападзе.

**Лепель.** Браканьер у лесе забіў стрэлам у сэрца з двухствольнага 36-гадовага інспектара Бярэзінскага біясфернага запаведніка падчас начнога рэйду, злачынцу затым затрымалі.

**Здраўнева.** Праўнукі знакамітага мастака Ільі Рэпіна з Францыі ў колькасці 18 чалавек пазнаёміліся з сядзібай свайго вядомага прадзеда на беразе Заходняй Дзвіны.

**Віцебск.** Ва ўсіх без выключэння нумарах 4-зоркавай гасцініцы "Лучоса" ўсталявілі сістэму кандыцыянавання паветра ў спёку і абагрэву пакояў у міжацяпляльны перыяд.

**Паставы.** У цэнтры горада пад раніцу загінулі ў пажары з-за неасцярожнасці пры курэнні 63-гадовая гаспадыня і сужыцель, маладзейшы на 20 гадоў.

**Браслаў.** На беразе маляўнічага возера Паўночны Волас у адным з заказнікаў будаўнікі ўзвялі новую сучасную рэзідэнцыю для адпачынку і пражывання кіраўніка Беларусі.

**Ноўка.** Жыхары прыгараднага аграгарадка з насельніцтвам 3 тыс. чалавек звярнуліся ў Камітэт дзяржкантролю РБ са скаргай на частую адсутнасць якаснай для піцця вады.

**Чашнікі.** Старшыня калгаса "Іванскі-Агра" паабяцаў выдзеліць новы катэдж пабліzу райцэнтра першаму з халасцякоў сярод 10 маладых спецыялістаў, хто ажэніцца .

**Расоны.** Ва ўсіх 12 лясніцтвах раёна лясгас стварыў нарыхтоўчыя пункты па прыёме ягад і грыбоў, лекавых траў, узраслі аб'ёмы ў прыватных фірм "Уладзімір, Даніла", "Баравічок".

**Віцебск.** Пяцёра гараджан пацярпелі ад расійскіх махляроў пасля паведамленняў на мабільныя тэлефоны і пералічэння ў РФ сум на сайт за "выйграныя" новенькія аўто.

**Полацк.** У аграгарадку Кушлікі прайшоў першы раённы бульбяны фэст, прысвечаны любімай страве беларусаў, мясцовая гаспадарка другая на Віцебшчыне па зборы бульбы.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Кастусь Шыталь

# Спроба паставіць крыж у Крулеўшчыне выклікала міжканфесійны скандал

**Спроба паставіць каталіцкі крыж у цэнтры мястэчка Крулеўшчына, што ў Докшыцкім раёне, натыкнулася на моцны супраціў праваслаўных. Каталікам давялося адкласці ўстаноўку крыжа да часу, пакуль сітуацыя не супакоіцца.**


Каталіцкі святар Уладзіслаў Завальнюк (злева) трымае капсулу з ерусалімскімі святынямі, справа – ксёндз Юры Бараўнёў.

## Крыж раздору

Пачалося ўсё з таго, што каталіцкія вернікі пажадалі замяніць крыж, які стаіць на ўездзе ў Крулеўшчыну з боку Докшыц. *"Крыж перашкаджаў лініі электраперадач, таму сталі шукаць іншае месца. Вырашылі паставіць у шматлюдным месцы, на скрыжаванні дарог"*, – кажа каталічка Галіна Кіцько. Паставіць рашылі на развілцы дарог на Докшыцы і Падсвілле, побач з крамай, вядомай у народзе пад назвай БАМ.

Ідэю ўстаноўкі крыжа ў Крулеўшчыне падтрымаў вядомы ксёндз Уладзіслаў Завальнюк, пробашч Чырвонага касцёла ў Мінску. Ён паабяцаў прывезці капсулу, у якой будуць змяшчацца святыні з Палестыны – зямля з ваколіц Гроба Гасподняга, камень з гары Фавор, алей, асвечаны ў Іерусаліме. Улады Докшыцкага раёна далі дазвол на ўстаноўку крыжа. Урачыстую ўстаноўку і асвячэнне крыжа запланавалі на 5 жніўня.

Але вечарам 4 жніўня здарылася нечаканая падзея – праваслаўныя вернікі сабраліся на мітынг каля месца, дзе каталікі планавалі ставіць крыж. Некалькі дзясяткаў праваслаўных бабулек і мясцовы настаяцель айцец Віктар Гмір пастанавілі змагацца супраць устаноўкі каталіцкага крыжа.

Вестка пра праваслаўны мітынг імгненна разлецелася па Крулеўшчыне, дайшла і да каталікоў. Яны таксама пастанавілі змагацца – за сваё права паставіць крыж у мястэчку. Аб 11-й гадзіне 5 жніўня, калі планавалася закладваць капсулу з ерусалімскімі святынямі, сабраліся два дзясяткі каталіцкіх вернікаў. Пакуль чакалі прыезду ксяндзоў, яны голасна абмяркоўвалі абурэнне праваслаўных. Каталіцкае духавенства вучыць вернікаў павазе да праваслаўных, таму каталікам цяжка было зразумець, чаму праваслаўныя не маюць павагі да каталікоў. *"Я ж не супраць, што каля майго дома стаіць праваслаўная царква. Наадварот, я рада, я схіляю галаву перад царквой"*, – сказала адна каталічка.

Нарэшце прыехалі ксёндз Уладзіслаў Завальнюк і мясцовы пробашч Юры Бараўнёў. Вернікі з цеплынёй сустрэлі святароў, гэта на нейкі час разрадзіла напружаную сітуацыю. *"Я думаў, чаму так цёпла сёння – а гэта вы свеціце, як сонейкі"*, – сказаў ксёндз Завальнюк. Ён паказаў вернікам капсулу з ерусалімскай зямлёй і прапанаваў спосаб вырашэння канфлікта з праваслаўнымі. *"Чаму б не паставіць тут і праваслаўны крыж? Будуць як брат і сястра"*, - заявіў ён. Ніхто з каталікоў не сказаў нічога супраць такой ідэі.

## Праваслаўныя правы

Праваслаўныя не чулі прапановы ксяндза Завальнюка – трыццаць жанчын у хустках падыйшлі да месца падзей адразу пасля таго, як каталіцкія святары з'ехалі. Праваслаўны святар айцец Віктар Гмір выказаў аргументы праваслаўнага боку. На яго думку, крыж нельга ставіць побач з крамай, бо пад ім могуць збірацца п'яніцы, апаганьваючы сваімі ўчынкамі святыню.

Другі аргумент айца Віктара – што недалёка знаходзіцца яго дом. Чым каталіцкі крыж перашкаджае бацюшкаваму дому, ён не растлумачыў. А да таго дома ад крыжа – метраў дзвесце.

Шэраговыя вернікі – каталіцкія і праваслаўныя – дадавалі свае аргументы. Некаторыя заклікалі мірыцца. Але частка праваслаўных выказвалася вельмі агрэсіўна. *"На праваслаўную Пасху агонь у Ерусаліме загараецца"*, – са злосцю ў голасе сказала жанчына, даказваючы правільнасць яе веры. *"Хай палякі ў Польшчу едуць"*, – закрычала іншая.

Аўтару гэтых радкоў, які выконваў журналісцкае заданне і не ўлазіў у спрэчкі, таксама дасталося.

*"Напішы хоць слова, мразь, я цібя уничтожу. І з псіхушкі всю жызнь не вылезеш"*, – пагражала адна шчырая праваслаўная верніца. – *"Я заяўлю ў КГБ"*, – дадала другая.

Праваслаўны святар спрабаваў супакоіць людзей, заклікаў да міру. Сказаў пра сваё станоўчае стаўленне да каталіцтва: *"Я і таму, і таму крыжу хрышчуся"*. Але пры гэтым абараняў выключнае права праваслаўных вырашаць, дзе каталікі могуць ці не могуць ставіць крыж. На думку айца Віктара, вырашыць канфлікт можна будзе толькі тады, калі каталікі адмовяцца ад планаў устаноўкі крыжа.


Праваслаўны святар Віктар Гмір заклікаў людзей да прымірэння, але толькі на ўмовах праваслаўнага боку.


Абураныя праваслаўныя жанчыны прыйшлі абараняць сваю веру.

## Часовае адступленне

Сутыкнуўшыся з моцным супрацівам праваслаўных, каталікі вырашылі адкласці ўстаноўку крыжа. Ксяндзы часова саступілі, каб не распальваць полымя канфлікту.

Праваслаўныя гэтага не ведалі, таму жанчыны сабраліся апалове на трэцюю пад крамай, чакаючы на ўстаноўку крыжа. *"Мы змагаемся не таму, што крыж польскі, а таму, што ён будзе апаганьвацца"*, – кажа жанчына з суседняй вёскі Ліпаўкі. Яна распавяла, што ў сваёй вёсцы разганяе мужыкоў, якія п'юць і лаюцца матам каля крыжа.

Каталікі тым часам сабраліся на Імшу ў гонар свята Перамянення Гасподняга. Служыў і прапаведваў ксёндз Уладзіслаў Завальнюк. Ён асвяціў абразы чатырох евангелістаў, змешчаныя паабапал алтара ў крулеўшчынскім касцёле. Ксёндз Завальнюк выказаў шкадаванне, што ўстанавіць крыж пакуль не ўдалося. Але святары выказалі спадзяванне, што гэта можна будзе зрабіць, калі сітуацыя больш-менш супакоіцца. Прынамсі, яму, выкапаную пад крыж, пастанавілі не закопваць.

## Абсурд на рэлігійнай глебе

Пераказваючы падзеі, якія адбываліся 5 жніўня ў Крулеўшчыне, я стараўся пазбягаць якой-небудзь іх ацэнкі. На гэтым можна было б паставіць кропку, але адчуваю патрэбу пракаментаваць тое, што адбывалася ў маім родным мястэчку.

Каментаваць гэтую падзею вельмі складана, бо сама па сабе сітуацыя, калі хрысціяне сварацца з-за крыжа, з'яўляецца абсурднай. Не буду асуджаць дзеянні тых, хто сапраўды перакананы, што крыжу не месца побач з крамай. Але, як вынікае з пачутага на месцы, многімі ўдзельнікамі скандалу рухала пачуццё непрыязні і нават нянавісці на рэлігійнай глебе. І гэта таксама абсурд.

Дзеячы, якія ў XI стагоддзі раскалолі Царкву, маюць сёння шмат сваіх паслядоўнікаў. Маю на ўвазе не паслядоўніцтва ў дагматыцы і абрадавасці, а паслядоўніцтва ў распаўсюдзе варожасці і нянавісці. Маргінальныя ідэалогіі, перамешаныя з рэлігійнай рыторыкай, знаходзяць добрую глебу ў слабых верай людзей – і ператвараюць іх у фанатыкаў. Лягчэй паверыць у сваю выключнасць і вобраз ворага – "масонскую змову", "скрытых бязбожнікаў" і "ворагаў святой Русі" – чым стаць паслядоўнікам Ісуса Хрыста.

Ісус навучаў: *"асцерагайцеся ілжывых прарокаў, якія прыходзяць да вас у авечай адзежы, а ўсярэдзіне - ваўкі драпежныя; па іхніх пладах пазнаеце іх. (...) Усякае добрае дрэва родзіць і плады добрыя, а благое дрэва родзіць і плады благія"*. (Евангелле паводле Мацвея, 7:15-17).

На гэтым стаўлю кропку. Высновы рабіце самі.

## Ада Райчонак:

# «Эх, прыгожа хлопцы спяваюць!»

■ **Уладзімір Скрабатун,**
*тэкст і здымкі.*


Ада Эльеўна Райчонак.

**На сцяне – партрэт Эміліі Плятэр.**



Андрусь Такінданг і гурт «Рэха», г. Мінск.

**Андрусь проста заводзіў публіку сваёй экстравагантнасцю і ўменнем трымацца на сцэне! Такога можна паслаць ад Беларусі і на «Еўрабачанне»!**


Уладзімір Дрындрожык, г. Мінск.


Аляксей Жбанаў, г. Мінск.

**Аляксей Жбанаў чытае верш Адама Міцкевіча «Смерць палкоўніка», які паэт прысвяціў памяці Эміліі Плятэр.**


Вольга Фёдарава, м. Германавічы


Іна Мароз, г. Наваполацк.

– Эх, прыгожа хлопцы спяваюць!– аж уздыхнула Ада Эльеўна Райчонак, пракаментаваўшы выступ аднаго з бардаў, Рамана Абрамчука з Мінска.

Ды й у мяне, аўтара гэтых радкоў, і праз дзень, калі пішуцца гэтыя матэрыял і праглядаецца відэазапіс, наварочваюцца слёзы на вачах… Ну так ужо за душу бяруць мелодыі і прыгожыя галасы бардаў! А расчуліў аўтара ўсё той жа Раман Абрамчук са сваёй “баравіковай поліўкай”. Бард назваў мелодыю песні “народнай”, хаця й угадвалася ў ёй мелодыя “Белавежскай пушчы” кампазітара Л.Пахмутавай, а словы да якой напісаў Сяржук Вітушка.

Праўда, Ада Эльеўна паспяшалася! Прыгожа, як сталася далей, спявалі і дзяўчаты.

Што ўсё ж аднак адбылося? Ада Эльеўна Райчонак у створаным ёю культурна-асветніцкім цэнтры імя Язэпа Драздовіча ў Германавічах зладзіла вечар бардаўскай песні.

Адгукнуліся на запрашэнне спадарыні Ады і завіталі на вечарыну барды: Аляксей Жбанаў (Мінск), гурт “Рэха” ў складзе афрабеларуса Андруся Такінданга і Мікіты Кішова (Мінск), Ханна Чумакова (Рагачоў), Раман Абрамчук (Мінск), Уладзімір Дрындрожык (Мінск), Іна Мароз (Наваполацк) і мясцовая ўраджэнка, 15-гадовая Вольга Фёдарава, навучэнка Наваполацкага музычнага каледжа. Уласна кажучы, у такім прыведзеным парадку і выступалі па чарзе барды.

Дарэчы, цёмнаскуры беларус Андрусь Такінданг ужо трэці раз завітаў да Ады Эльеўны ў Германавічы, а зусім нядаўна вярнуўся з “Басовішча-2011”, унікальнага музычнага фэсту, які ўжо болей за 20 год ладзяць розныя пакаленні студэнтаў беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Гэты студэнцкі фэст застаецца адначасова самым вялікім фэстам беларускай музыкі. Андрусь жа быў вядоўцам згаданага фэсту.

О, Андрусь Такінданг! Гэта не толькі бард! А яшчэ й рэжысёр, беларускі мастак, паэт і кампазітар! Такія вось людзі едуць да Ады Эльеўны! І з вялікім задавальненнем! Андрусь дык наогул быў тут нарасхват як у хлопцаў, так і ў дзяўчат. Усе хацелі з ім сфоткацца! Сёлетняя вечарына была прысвечаная памяці Эміліі Плятэр, гераічнай шляхцянцы, літвінцы-беларусцы, якую клічуць беларускай Жанай Д’Арк. Удзельніца паўстання 1831 года. І першым з бардаў, хто распачаў вечарыну, быў Аляксей Жбанаў (Мінск), прачытаўшы верш “Смерць палкоўніка” Адама Міцкевіча ў перакладзе на беларускую мову, які прысвечаны Эміліі Плятэр. Потым ён выканаў песні першай паловы XIX стагоддзя, якімі натхняліся паўстанцы і ўдзельнікі таварыстваў філаматаў і філарэтаў.

Песні ў выкананні бардаў дзяўчат падкупалі слухачоў сваёй шчырасцю, жаноцкасцю, як тое Іны Мароз з Наваполацка ці Ханны Чумаковай з Рагачова. Тут не стаіць пытанне: хто больш таленавіты? Ва ўсіх свой стыль, прыгожы і чароўны голас. Тэмы Радзімы, кахання і вернасці…

На заканчэнне бардаўскай вечарыны праспявала 15-гадовая Вольга Фёдарава, мясцовая ўраджэнка, навучэнка Наваполацкага музычнага каледжа. Ну, што тут сказаць! Маладая ды таленавітая! Далёка пойдзе! Голас цудоўны! Музыку піша сама, словы песень – Міхася Райчонка, ды хлопца, з якім пазнаёмілася гадоў дзесяць таму, які, знаходзячыся ў расейскамоўным асяроддзі Віцебска, піша выключна беларускія вершы...

Прыгожыя песні, прыгожыя галасы выканаўцаў! Усё файна і па-беларуску! Ніякай расейшчыны!

Эх, багата грыбамі Налібоцкая пушча!
А рэцэпт нашай поліўкі – просты такі:
Каб была як найболей наварыстай гушча!
Рознай дрэні – не браць! Толькі баравікі!
Эх, багаты грыбамі ўсе нашыя пушчы!
Мухамораў – не браць! Толькі баравікі!


Раман Абрамчук, г. Мінск.

Мы вярталіся ў Глыбокае. Жыва абмяркоўвалі пачутае і ўбачанае… І ўсе задаваліся пытаннем: чаму на экранах нашых тэлевізараў мы дзесяцігоддзямі бачым на эстрадзе адны і тыя ж твары? Гэта што: адсутнасць новых талентаў ці настолькі ўжо здрабнела Беларусь? Не! Проста мы жывём у розных Беларусях! У адной Беларусі няма ні сваёй мовы, ні гісторыі, ні культуры, ні талентаў… У іншай – усё тое ёсць і ў вялікім дастатку! Але між дзвюма Беларусямі пралягла мяжа непаразумення. І шмат каму праз тую мяжу пераходзіць забаронена…

Няўрымслівая Ада Эльеўна! Гэта ж трэба: чалавеку – 75-ы год! Яе актыўнасці можна пазайздросціць! Арганізоўвае пленэры для мастакоў па Драздовічавых мясцінах, ладзіць краязнаўчыя канферэнцыі, збірае бардаў, робіць выставы…

Далібог, Ада Эльеўна Райчонак, колішні вязень віцебскага гета, былая настаўніца рускай мовы сельскай школы, краязнаўца, якая працягвае справу свайго заўчасна памерлага сына Міхася Райчонка, беларускага мастака і паэта, краязнаўцы – адна робіць для папулярызацыі беларускай культуры і мовы столькі, што нават побач – калі паставіць – памеркнуць цэлыя аддзелы культуры райвыканкамаў з іх раздутымі штатамі, «працёртымі штанамі і спадніцамі», якія толькі тым і займаюцца, што папулярызуюць культуру і мову ўсходняга суседа.

Вось будзе ў Глыбокім у 2012 годзе Дзень беларускага пісьменства... Добрая нагода запрасіць лепшых бардаў краіны на свята і зладзіць у нас, у рамках згаданага мерапрыемства, фэст бардаўскай песні.


Ханна Чумакова, г. Рагачоў.

Кастусь Александровіч

Чэмпіянат Беларусі па футболе-2011

# За адзін крок да медалёў

## "ПМЦ-1" (Паставы) – ФК "ГОМЕЛЬ" – 2:2




Вельмі драматычна для маладой і перспектыўнай футбольнай каманды з Пастаў завяршылася чарговае першынство Беларусі, якое праходзіла толькі ў адзін круг, бо неўзабаве пераходзіць на еўрапейскую сістэму розыгрышу "восень-вясна". Перад паездкай у Гродна на яе трэніроўцы нават папрысутнічаў кіраўнік дзяржавы. Прэзідэнт высока ацаніў створаную на ПМЦ спартыўную базу, выказаў пажаданне стварыць тут і дарослую каманду, у якую павінны імкнуцца трапіць лепшыя выхаванцы дзіцячай футбольнай школы клуба.

Перадапошні выязны матч пастаўчан на захадзе краіны праходзіў у невыносную спёку. Госці былі аслабленыя адсутнасцю на полі свайго капітана Аляксандра Жарскага, які прапускаў гульню пасля выдалення за фол апошняй надзеі ў папярэдняй сустрэчы. Аднак спачатку гульня для іх склалася ўдала. Ужо на 1-й хвіліне пастаўчане адкрылі лік пасля імклівага праходу таленавітага паўабаронцы Ігара Пукава, якім сур'ёзна цікавіцца расійскі суперклуб "Спартак" (Масква). У далейшым госці мелі шэраг яўных магчымасцей развіць свой поспех, але ніводны з 6-ці галявых момантаў не рэалізавалі, за што былі пакараныя.

Пасля грубых памылак саперніка "Нёман" да перапынку быў ужо наперадзе з лікам 2:1 і займеў колькасную перавагу пасля даволі спрэчнага выдалення крайняга абаронцы Дзмітрыя Рымчонка. У другім тайме пастаўчане лік зраўнялі пасля па-майстэрску выкананага Кірылам Сідарэнка ўдара па паветры за спіну варатара. Было яшчэ некалькі зручных момантаў вырваць перамогу, аднак ў канцоўцы госці прапусцілі востры контрвыпад гродзенцаў і прайгралі з лікам 2:3. Ужо праз 3 дні дома іх чакаў галоўны матч сезона з вельмі моцным ФК "Гомель".

Турнірнае становішча абавязвала пастаўчан гуляць у гэтым заключным матчы толькі на перамогу, бо толькі гэта выводзіла каманду на высокае 2-е месца. Нават нічыя пазбаўляла ПМЦ медалёў, паколькі пры аднолькавай колькасці набраных 33 ачкоў, згодна Рэгламента спаборніцтваў, па дадатковых паказчыках уладальнікамі бронзавых медалёў станавіўся "БАТЭ" (Барысаў), які меў ў сезоне на адну перамогу болей (11 супраць 10 у пастаўчан) і ўжо закончыў гуляць. А вось гамяльчане маглі гуляць спакойна, у сваё задавальненне, паколькі нават у выпадку паражэння яны, як і летась, займалі ў першынстве 3-е месца.

Не дзіўна, што госці пачалі сустрэчу асцярожна, спачатку сканцэнтравалі ўвагу на абароне сваіх варот. Вялікая адказнасць і хваляванне за патрэбны вынік у першай палове сустрэчы сказаліся на гульні гаспадароў. У пастаўчан не ўсё атрымлівалася зладжана, як раней, шмат яны дапускалі памылак у перадачах. Але іх горача падтрымлівалі запоўнены гледачамі стадыён, на гульню ПМЦ прыехала паглядзець і група балельшчыкаў з суседняга Мядзела. На 16-й хвіліне гледачы "узарваліся" апладысментамі, аднак узяцце варот Дзмітрыем Максімчуком малады суддзя з Маладзечна чамусьці адмяніў, палічыўшы, што ў момант прыёму мяча пастаўскі нападаючы быццам знаходзіўся ў становішчы "па-за гульнёй".

У далейшым гульня прадоўжылася па яшчэ больш дрэннаму сцэнарыю для ПМЦ. На 26-й хвіліне лепшы гомельскі форвард Аляксандр Янчанка выйграў сілавое адзінаборства ў капітана ПМЦ і магутна стрэліў пад перакладзіну з некалькіх метраў – 0:1. Неўзабаве госці ледзь не развілі свой поспех. Падаспеўшы перапынак, кароткі адпачынак у цяньку і серыя праведзеных замен дапамаглі пастаўчанам пераламаць ход паядынку. Адразу пасля свістка на другі тайм яны абрушылі на вароты гасцей шэраг удараў, падалі запар некалькі небяспечных вуглавых удараў і, нарэшце, з інтэрвалам у 2 хвіліны двойчы дабіліся свайго.

Спачатку на 48-й хвіліне рэзервны апорны паўабаронца Арцём Галяк, як сапраўдны майстар, ацаніў пазіцыю варатара "Гомеля" і тэхнічным ударам паслаў мяч па паветры ў верхні вугал варот – 1:1. Сапраўдны шквал радасных эмоцый у гледачоў выклікаў неўзабаве наступны эпізод, калі на левым фланзе абыграў апекуна Павел Сысянкоў і аддаў нацэленую перадачу ў штрафную пляцоўку на Дзмітрыя Максімчука. Нападаючы ПМЦ прабіў дакладна ў верхні вугал варот. Лік на табло стаў такі прыемны і жаданы – 2:1. Пасля гэтага пайшла яшчэ больш адкрытая гульня, ход якой большай часткай кантралявалі пастаўчане.

За 15 хвілін да канца сустрэчы яны маглі б канчаткова вырашыць лёс паядынку, але не атрымалася ў Васіля Журневіча заключная перадача на ўдар пры небяспечным выхадзе ўдваіх супраць аднаго абаронцы гамяльчан. У апошнія хвіліны матча мяч пасля небяспечнага ўдара са штрафнога апорнага паўабаронцы Міхаіла Бабічава праляцеў над перакладзінай, з цяжкасцю варатар гамяльчан адбіў удар і Паўла Сысянкова. Да канца сустрэчы заставалася гуляць меней 2-х хвілін, калі здарылася сапраўдная спартыўная драма.

Гамяльчане ў сваёй апошняй атацы пайшлі на штурм, зарабілі права ўвесці мяч з-за бакавой лініі. Яны далёка выкінулі мяч, даставілі яго ў штрафную і ў гушчыні ігракоў у варатарскай пляцоўцы ПМЦ Аляксандр Зарэцкі здолеў запіхнуць нагой мяч за лінію варот. Радасць гасцей ад узяцця варот змянілася адразу глыбокім расчараваннем пастаўчан, за якіх гулялі: Чарняк, Канонік, Альсевіч, Жарскі (к), Архіпаў, Бабічаў, Санько (Сысянкоў), Пукаў (Малахаў), Максімчук (Латышаў), Сідарэнка (Галяк), Журневіч.

Гэтыя юнакі былі ў адным кроку ад сярэбраных медалёў, але крыўдным чынам засталіся ў выніку без узнагарод на выніковым 4-м месцы. Але гэта спорт, такое ў ім здараецца. Зрэшты, задачы абавязкова быць сярод прызёраў перад імі не ставілася, галоўная мэта была падрыхтаваць ігракоў вельмі высокага прафесійнага ўзроўню, каб яны былі ў стане зрабіць спартыўную кар'еру, вырасці ў майстроў высокага класу. На гэтым шляху ўжо нямала зроблена, гульня каманды прыемна радуе шматлікіх балельшчыкаў. Ды і фармальна пастаўчане перамаглі ў асабістай сустрэчы барысаўскі "БАТЭ", маючы лепшую за іх розніцу забітых і прапушчаных мячоў 50-15. Галоўны трэнер ПМЦ, майстар спорту Сяргей Ясінскі адзначыў, што яго падапечныя змагаліся да канца, хоць і не ўсё на гэты раз атрымалася належным чынам з-за вельмі высокай цаны гэтага матча.

У цэлым пастаўчане правялі дэбютны сезон у вышэйшай лізе паспяхова, увайшлі ў чацвёрку мацнейшых сярод лепшых 16 каманд Беларусі ўслед за "Дынама" (Мінск), гамяльчанамі і барысаўчанамі. Каманда з Пастаў правяла 15 сустрэч, з якіх 10 выйграла, тройчы згуляла ўнічыю і прайграла толькі на выездзе ў Брэсце і Гродна. У гэтых маладых футбалістаў нядрэнны патэнцыял для далейшага росту, ім ёсць і над чым працаваць. Праз год-два на базе гэтай дружыны будзе сфарміравана свая каманда для ўдзелу ў чэмпіянаце Беларусі па футболе сярод дарослых у 2-й лізе.

Пасля дня адпачынку правялі тэсціраванне гэтых футбалістаў трэнеры з сусветна вядомага італьянскага суперклуба "Мілан" і камандзе быў прадастаўлены кароткатэрміновы адпачынак. Доўга адпачываць хлопцам не выпадае, бо ўжо напрыканцы жніўня пачынаецца чарговы юнацкі чэмпіянат Беларусі, дзе ў вышэйшай лізе каманда "ПМЦ" (Паставы) будзе цяпер адным з фаварытаў новага першынства (U-18), якое завершыцца будучай вясной.

Маладзейшая другая каманда пастаўчан (U-15) у аналагічным матчы саступіла гамяльчанам з лікам 1:3, у сілу маладосці і адсутнасці неабходнага вопыту ў сваім турніры замкнула турнірную табліцу. Гэта каманда ПМЦ была самай маладзейшай у турніры, але набыла такі неабходны вопыт у гульнях са спрактыкаванымі сапернікамі з буйных гарадоў краіны. У ёй ужо пачалі з'яўляцца новыя ігракі, для якіх арганізуецца ў Паставах да 1 верасня футбольны спецклас, а на спортбазе адкрылі ўтульны інтэрнат для прыезджых талентаў.

# «Белсат» пашырыў трансляцыю на другі спадарожнік

Ад 1 жніўня «Белсат», першы незалежны спадарожнікавы тэлеканал у Беларусі, аднавіў трансляцыю на другім спадарожніку «Астра 1KR». Цяпер сігнал «Белсату» дасяжны гледачам, чые «талеркі» скіраваныя на два спадарожнікі: «Астра 4A» (раней «Сірыюс») і «Астра 1 KR». Гэта павялічвае не толькі геаграфічны абсяг тэлеканалу, але і памер рэальнай і патэнцыйнай аўдыторыі ў Беларусі і за яе межамі.

«Белсат» са снежня 2007 г. да 6 снежня 2010 г. трансляваў свой сігнал праз спадарожнік «Астра 1KR».

Паводле даследаванняў, праведзеных 30 траўня – 13 чэрвеня 2011 г. недзяржаўным сацыялагічным цэнтрам «Зеркало-Инфо», 15 % беларускіх карыстальнікаў спадарожнікавага тэлебачання прымаюць сігнал спадарожніка«Астра1KR». У той жа час спадарожнік «Астра 4A» – найбольш папулярны ў Беларусі. Тэлепраграмы з яго дапамогаю глядзіць 51 % аўдыторыі спадарожнікавага тэлебачання.

**Нагадваем тэхнічныя параметры:**

Назва спадарожніка: Astra 1KR

Арбітальная пазіцыя: 19,2°E

Нумар транспондэра: 59

Палярызацыя: H

Частата: 10862 MHz

Мадуляцыя: DVB-S

Symbol rate: 22000

FEC: 7/8»

*Сяргей Пеляса, рэдактар Белсат TV*

+48 785 985 314

www.belsat.eu

# Да ўвагі ягаднікаў

У 2011 годзе Рашэннем Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта ўсталяваны наступныя тэрміны збору ягад **брусніцы – з 20 жніўня, ягад журавін – з 3 верасня.**

*А.Г. Абрамчык.*

Яўген Самсонаў

# Пляжны валейбол: моладзь абыграла бывалых

**З 11 ліпеня па 3 жніўня на возеры Бяглец было людна. Тут праходзіў адкрыты чэмпіянат Глыбоцкага раёна па пляжнаму валейболу, у якім прыняло ўдзел 20 каманд. Узровень майстэрства ігракоў – МС і КМС.**



У выніку ўпартай і захапляючай барацьбы, у фінал трапіла шэсць каманд: ПМК 48(1) - Д. Васілеўскі-В. Наўмёнак, Элдвігсэрвіс - Д. Закрэўскі-А. Машніч, Двінская ЭБ - Р. Верташонак- А. Ляшковіч і тры каманды выхаванцаў ДЮСШ - А. Сабыніч-М. Шымко, Ян Сакалоўскі-А. Латарцаў, І. Грышкевіч-А.Шарабайка.

Які захапляючы быў фінал! Толькі апошняя падача ў апошняй сустрэчы каманд вырашала лёс пераможцы і прызёраў. Больш стрыманай і згуртаванай у эмацыянальным плане была моладзь. Нечакана для ўсіх пераможцамі і ўладальнікамі галоўных прызоў чэмпіянату сталі самыя маладыя майстры скуранога мяча Арцём Сабыніч і Максім Шымко.

У апошняй сустрэчы чэмпіянату вызначаўся лёс каманд за 2 і 3 месца. Толькі перамога над камандай ПМК-48(1) дазваляла Яну Сакалоўскаму і Аляксандру Латарцаву стаць уладальнікамі срэбных медалёў. У адваротным выпадку ім свяціла 4 месца, а гэтыя ўзнагароды атрымлівалі іх супернік, і трэцім прызёрам была б каманда Элдвігсэрвіс. Але яны паказалі вопытным і бывалым валейбалістам, хто гаспадар на валейбольнай пляцоўцы, адцясніўшы каманду ПМК-48(1) на прыступку ніжэй.

# МНС інфармуе

(на 9.08.2011 г.)

**Віцебская вобласць:**

Пажараў – 865;

Гібель людзей – 135, з іх 3 дзіцяці;

Урон – 3 359 149 тыс. руб.

**Глыбоцкі раён:**

Пажараў – 41;

Гібель людзей – 8, з іх дзяцей няма;

Урон – 246 685 132 руб.

# На тэрыторыі манастыра ў Віцебску ўчынена забойства

**Следчы аддзел пракуратуры Віцебскай вобласці распачаў справу па факце забойства (ч. 1 арт. 139 КК), якое адбылося 7 жніўня на тэрыторыі Свята-Траецкага Маркава манастыра.**

**Як паведаміў** следчы пракуратуры Віцебскай вобласці (па Віцебску) Артур Судзілоўскі, ахвярай злачынства стаў 55-гадовы пастаялец прытулку для бяздомных пры манастыры. Мужчына жыў тут і дапамагаў па гаспадарцы каля трох месяцаў. Падазроны, 48-гадовы раней судзімы за замах на забойства, – таксама жыў у прытулку і дапамагаў па гаспадарцы, але нядаўна знайшоў сабе новае прыстанішча, куды вырашыў перабрацца.

Мужчыны даўно адчувалі адзін да аднаго непрыязнасць.

7 жніўня падазроны ў стане моцнага алкагольнага ап'янення прыйшоў у прытулак, каб сабраць свае рэчы. У гэты момант і адбылася сварка, якая закончылася забойствам. Злачынца нанёс ахвяры адзін удар нажом у грудзі. Міліцыю выклікалі пастаяльцы прытулку, якія прысутнічалі пры сварцы.

Падазронага затрымалі, калі ён пакідаў тэрыторыю манастыра.

Сваёй віны ён не прызнае.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

15 – 21 жніўня 2011 г.



**Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Выразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".**

**Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 р.**



## ПАНЯДЗЕЛАК, 15 жніўня



**07.00, 08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.35** Новости.
**06.00, 07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.05, 08.05** Зона Х. Дорожные новости.
**07.30, 08.25, 11.50** «Деловая жизнь».
**08.30** Документальный сериал «Горожане-2011»: Росарио (Аргентина).
**09.10 «Маргоша»**
**10.05 «Маршрут милосердия»**
**11.00 «Маруся. Возвращение»**
**12.10 «Арфа для любимой».** Мелодрама (Украина).
**13.45** Синематека.
**14.30** Nota Bene.
**15.15, 19.20**Новости региона.
**15.35** Семейная комедия **«Месть пушистых»** (США).
**17.05 «Маршрут милосердия»**
**18.00 «Маруся. Возвращение»**
**18.50** «Зона Х».
**19.30** Арена.
**19.55 «Маргоша»**
**21.00** «Панорама».
**21.40** «Командировка».
**21.55** Триллер **«Контракт»** (США-Германия).
**23.45** День спорта.
**00.00** Документальный цикл «В поисках истины» (Украина). Фильм «Смерть червовой королевы».

**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Смак».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Правда скрывает ложь»**
**12.05** «Детективы».
**12.40** «Детки в клетке».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Контрольная закупка».
**13.45** «Модный приговор».
**14.50** «Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Обручальное кольцо»**
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20 «Королева экрана»**
**19.00** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.

**21.05 «Последняя встреча»**
**22.10 «В лесах и на горах».**
**23.05** «Он вам врет!».
**00.00 «Крем»**
**00.50-01.20** Ночные новости.



**07.00** «ЛАДное утро».
**08.00** Телебарометр.
**08.05 «Ты моя жизнь»** (Аргентина).
**09.05 «Журов-2»**
**10.10** Женсовет.
**10.45** Концерт Joe Satriani. Satriani Live!
**12.50** Женская лига.
**13.20** «Хали-гали». Скетч-шоу.
**13.30** Анимационный фильм «Каена. Пророчество» (Канада).
**15.10** «Час суда. Дела семейные».
**16.15** Врачебные тайны
**16.45** Врачебные тайны +.
**17.00 «Анатомия Грэй-5»** (США).



**18.00 «Ты моя жизнь»** (Аргентина).
**19.00 «Журов-2»**
**20.00** Женская лига.
**21.00** Калыханка.
**21.15** Телебарометр.
**21.20** КЕНО.
**21.25** Концерт Joe Satriani. Satriani Live!
**23.30«АнатомияГрэй5»**
**00.15** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.30** «Большой завтрак».
**10.05** «Зеленый огурец. Полезная передача».
**10.30** «24 часа».
**10.40 «Наши соседи»**
**11.45** «Званый ужин».
**12.35** «Большой город».
**13.10** «Дальние родственники».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».
**14.45** Концерт Михаила Задорнова.
**16.00** «Я-путешественник».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».

**18.30 «Огонь любви»**
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.25**«Кинопонедельник»: **«ВРАГ НОМЕР ОДИН».** Россия, 2008г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Столичный футбол».
**23.30** «Тайны мира с Анной Чапман».



**7:00 Т**ыдзень у «Аб'ектыве»
**7:40 «Праведнікі»**: 3 серыя
**8:25 «**Час Чжоў Эньлая», дак. фільм, рэж. Юрый Хашчавацкі, 1998 г., Беларусь
**9:30 Б**асанож па свеце
**9:55 Н**а колах
**10:25** Прыватная калекцыя
**10:45** Без рэтушы: «Бяссонныя плыні», дак. фільм, 2008 г., Беларусь
**11:25** МакраФон: «Белая яблыня грому», канцэрт гурта «Крамбамбуля»: ч. 1
**12:00** Аб'ектыў
**12:05 «Удзельнікі турпаездкі»**, камедыя, рэж. Іржы Вэйдзелэк (JiYн Vejd˚ #Ïlek), 2006 г., Чэхія
**14:00 «Праведнікі»**: 3 серыя
**14:45** «Час Чжоў Эньлая», дак. фільм, рэж. Юрый Хашчавацкі, 1998 г., Беларусь
**15:50** На колах
**16:15** Размовы эксперта
**16:35 «Бульбаны»**, мультсерыял
**16:40** Прыватная калекцыя
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Ранча Піковая Сямёрка»**: 35 серыя
**17:30 «Праведнікі»**: 3 серыя
**18:15** «Час Чжоў Эньлая», дак. фільм, рэж. Юрый Хашчавацкі, 1998 г., Беларусь
**19:20** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19:30** Аб'ектыў
**19:35** Калыханка для самых маленькіх
**19:45** Беларусы ў Польшчы
**20:05** Еўропа сёння
**20:35** Моўнік
**20:40** Размовы эксперта
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Героі не нашага часу: «Сяргей Картэс: Аўтаномія асобы»
**21:45 «Удзельнікі турпаездкі»**, камедыя, рэж. Іржы Вэйдзелэк (JiYн Vejd˚ #Ïlek), 2006 г., Чэхія
**23:40** Аб'ектыў

